 

# Дуброўскага павета

## Вось што значаць чыны

Да моманту ўтварэння Дуброўскага павета ў 1956 годзе чыны, як форма грамадскага будаўніцтва, былі амаль невядомы. Але ўжо на працягу 1956 года гаспадары Новага Двара пабудавалі чынамі 1 кіламетр дарогі ў напрамку мясцовасці Сідра. У тым жа годзе гаспадары Кур'янак аказалі многа бясплатнай дапамогі ў нефаховых работах пры будове новай школы.

У наступным — 1957 годзе — асабліва многа чынамі зрабіла вёска Керсноўка. Уздоўж дарогі пасаджана звыш 300 дрэвак, а на працягу 1958 года закончана пабудова чынамі 1.200 метраў вясковай вуліцы. Услед за гаспадарамі Керсноўкі пайшлі гаспадары Ячна, якія выбрукавалі сваю вуліцу даўжынёю 1.500 метраў.

Моладзь вёскі Хілімоны пры нязначнай дзяржаўнай грашовай дапамозе сама адрамантавала мясцовую святліцу. Вартасць праведзеных работ ацэньваецца ў 25 тысяч злотых. На працягу 1958 года за бясплатнай дапамогай гаспадароў у нефаховых работах пабудаваны новыя школы ў Гараднянцы, Рыгалоўцы і Харужаўцах.

Наогул, за апошнія гады такім чынам пабудавана 8 новых школ.

У бліжэйшы час у мястэчку Дуброва будзе распачата будова лазні. 70 прац. агульных коштаў гэтай будовы дасць мясцовае насельніцтва ў форме чынаў.

На бягучы год пры дапамозе чынаў мясцовых гаспадароў намечаны будовы новых школ у Хілімонах, Бутрымаўцах, Сухадоліне і Рэшкаўцах.

Наогул, у наступаючай сямігодцы пры дапамозе чынаў намечана пабудаваць 21 будынак для сямікласных школ. Асаблівай увагі заслугоўвае факт, што далейшых 6 новых будынкаў для аднакласных школ запланавана пабудаваць поўнасцю чынамі мясцовых гаспадароў.

За гэтую сямігодку пры дапамозе чынаў намечана пабудаваць 17 кіламетраў новых дарог. Кожная вёска ў павеце павінна мець жвіраваную або брукаваную вуліцу і, у меру мажлівасцей, брукаваны даезд да бліжэйшай шашы.

Вось што значаць чыны! (ся)



Дуброва. Адміністрацыйны будынак у будове.
Фота — (аа)

## Дуброва будзе горадам

У сямігадовым плане гаспадарча - культурнага будаўніцтва ў Дуброве штогод будзе будавацца амаль па два новыя блокі ЗОР агульным аб'ёмам па 50 жыллёвых кватэр. У бліжэйшыя гады намечана пабудова тэхнічна добра абсталяванай малачарні. Будзе тут таксама гарбарня і пункт перапрацоўкі ільну і вырабу алею, дзе знойдуць працу і хлеб дзесяткі людзей. У аколіцы недалёкай мясцовасці Новая Вёска запланавана пабудова вялікай цагельні, якая дасць прадукцыі ў год да 18 мільёнаў штук цэглы. Гэтая цэгла будзе прызначана выключна на патрэбы павета. Ужо ў канцы 1961 года цагельня вырабіць за год звыш 8 мільёнаў штук цэглы!

У канцы 1959 года закончыцца пабудова каўбаснага прадпрыемства, а ў 1960 годзе — пякарні.

У Дуброве няма цяпер добрай пошты, але ўжо, мабыць, у гэтым годзе пры рынку ўзвысіцца новы прыгожы будынак павятовай пошты. А на ўскраіне мястэчка стануць вялікія магазіны штучных угнаенняў.

У бягучым годзе звыш мільёна злотых будзе выдаткавана на разбудову мясцовага гарадскога кіно. Дуброва атрымае каналізацыю, у Дуброве будуць перабудаваны і высаджаны дрэўцамі вуліцы з хаднікамі, якія збягуцца ў цэнтры будучага горада з утульным скверыкам. А ў цэнтры будзе яшчэ красавацца гасцініца на 30 месц. Яе будова распачнецца ўжо ў 1961 годзе. (ся)

---

### Ці ведаеце, што...

...за 1958 год гаспадары Дуброўшчыны закупілі звыш 3.000 тон цэменту толькі на вольным рынку.

...перад вайной было ўсяго 4 школы сямікласныя і 15 школ чатырохкласных. А цяпер налічваецца 30 школ сямікласных і 20 школ чатырохкласных.

...перад вайной на цяперашняй тэрыторыі павета налічвалася 40 крамаў, а цяпер ёсць іх 83. Апрача гэтага, ужо ў бягучым годзе ў Дуброве будзе закончаны вялікі Вясковы гандлёвы дом.

...у 1956 годзе абарот дэталічнага гандлю замкнуўся лічбай 32 мільёнаў злотых. А ўжо за 1958 год абарот узрос да звыш 46 мільёнаў злотых.

---

ваны тут вячэрнія курсы крою і шыцця, гатавання і пячэння, на якіх удзельнічае 30 жанчын.

Шмат служачых і працаўнікоў рад нарадовых у Дуброве не мелі закончанай сярэдняй адукацыі. У мінулым годзе ружанастоцкія педагогі арганізавалі вячэрнюю сярэднюю агульнаадукацыйную школу. Ахвотныя вучыцца ў ёй знайшліся.

Тры гады ўжо дзейнічаюць арганізаваныя ружанастоцкімі настаўнікамі пастаянныя сельскагаспадарчыя лектараты ў вёсках Ячна, Нярасна і Грабені. Такія лектараты здабылі вялікую папулярнасць сярод сялян. Настаўнікі пастаянна апякуюцца арганізаванымі сельскагаспадарчымі гурткамі ў Гарасімавічах і Градзішчанах. Пры тэхнікуме створана двухзімовая школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі для пазашкольнай моладзі аколіцы. Падобныя школы намечана арганізаваць у Новым Двары і Ліпску. Сёлета пры тэхнікуме арганізаваны ўжо трэці мацыклетна - аўтамабільны курс. Папярэднія два закончыла 70 юнакоў і дзяўчын з акалічных вёсак.

Дзякуючы бескарыснай працы ружанастоцкіх педагогаў, сяляне навакольных вёсак зусім інакш пачалі глядзець на школу.

— Цяпер няма такога дня, — гаворыць дырэктар, — каб у тэхнікум не зайшло некалькі сялян за нейкай парадай ці дапамогай. У тэхнікуме сяляне выменьваюць кваліфікаванае збожжа, бясплатна атрымоўваюць шэраг фаховых парад. Толькі ў мінулым годзе сяляне закупілі ў тэхнікуме 400 парадзістых парасят. Цяпер бацькі ганарацца, калі іх дзеці вучацца ў Ружанастоцкім тэхнікуме.

Карыстаючыся вольным ад заняткаў часам, дырэктар прапанаваў мне наведаць інтэрнаты, паглядзець, як жывуць вучні. Я ахвотна згадзіўся. І вось мы па шырокіх сходах падымаемся на паверх мужчынскага інтэрната. Усюды чысціня, парадак. На доўгім, мо' 150 метровым, калідоры шмат кветак. Недзе з другога канца калідора даносіцца задорная, маладзецкая песня.

— Гэта гурток мастацкай самадзейнасці праводзіць рэпетыцыю, — паясняе дырэктар.

Неяк дзіўна сябе адчуваеш, калі ў гэтых тоўстых трахсотгадовых сценах слухаеш песню. Гэтага тут яшчэ не было ніколі. У бакавой сцяне калідора мноства дзвярэй. Праз гэтыя дзверы некалі ўваходзілі манахі, каб назаўсёды развітацца са светам. Цяпер імі ўваходзяць маладыя, поўныя жыцця людзі, каб, здабыўшы веды, выйсці ў шырокі свет жыцця. У пакойчыках, даўнейшых манашскіх келлях па 3—4 ложкі. Чыстая пасцель. Цёпла. У інтэрнатах заложана цэнтральнае ацыпленне. Келлі прыстасаваны да нармальнага жыцця.

Мы перайшлі ў жаночы інтэрнат. Гэта цудоўны палац, пабудаваны ў візантыйска-крымскім стылю. Цудоўная архітэктура 3-х розных кандыгнацый, злітых у адну цэласць. Тут некалі ўладарнічала царская цётка. Заходзім у грамадную залу. Тут адбываліся супольныя малітвы манашак. Гэтая зала так пабудавана, што калі ў адным канцы скажаш нейкае слова, дык на працягу некалькі секунд яно адбіўшыся, вернецца ізноў да цябе, і ты яго ў другі раз выразна пачуеш. Легенда гаворыць, што праворная ігуменка спецыяльна загадала так пабудаваць залу, каб мець магчымасць падслухоўваць, аб чым пляткуюць манашкі.

Цяпер у гэтай зале адбываюцца канцэрты школьнай мастацкай самадзейнасці. І ў гэтым інтэрнаце ў пакойчыках дзяўчын шмат кветак, чыста і вельмі прыемна.

— У канцы гэтага навучальнага года, — сказаў на развітанне дырэктар, — мы будзем адзначаць пяцігоддзе нашага тэхнікума. З Ружанастоку выйдуць у свет з дыпломамі сельскагаспадарчых тэхнікаў першыя выпускнікі. Дык не забывайце, прыязджайце на нашую ўрачыстасць.

Падзякаваўшы дырэктару за гасціннасць і ветлівасць, я той жа дарогай накіраваўся да прыстанку. Калі, азірнуўшыся апошні раз, паглядзеў на гмахі былога манастыра, яны ўжо мне паказаліся не такімі сумнымі. За іх тоўстымі, сярэднявяковымі сценамі бурліць новае, маладое жыццё.

В. БАРШЧЭЎСКІ

---

П. БАРАШАЎ і В. КІТАІН

3)




(Дакументальная аповесць, расказаная палкоўнікам П. Н. Сахаравым і Нагаевым).

### «Прыяцель, ці не маеш аганьку»?

Паляўнічыя доўга блукалі каля невялікіх азёр і рачулак з ціхімі завадзямі, але зусім не звярталі ўвагі на вадаплаўных птушак, якіх тут было ўдосталь. Іх шлях ляжаў у пушчу, на звярыныя сцежкі, па якіх хадзілі кабаны, лосі, а на ўзлессі ад'яжаліся на зіму вывадкі шэрых пужлівых курапатак і ганарлівых цецярукоў.

Іх было чэцвера. Апранутыя ў ватоўкі і шапкі - вушанкі, яны стомлена крочылі па ўхабах прасёлкаў, прытрымліваючы за плячамі двухстволкі, ягташы, рукзакі, набітыя запасамі ежы на трое сутак.

На ўзлессі, дзе калісьці была вырубка лесу, прасёлак непрыкметна знік у зарасніках травы, і толькі чуць прыкметная сцежка вяла далей, у глыбіню лесу.

— Ну вось... Тут наша група павінна разыйсціся. Кожны пойдзе па свайму напрамку, — сказаў высокі і хударлявы Караткоў. — Думаю, што нам усё ж трэба ісці паралельна і асабліва не аддаляцца адзін ад другога, каб у выпадку трывогі паспець на дапамогу. Выходзіць будзем да Шыбіна — Нёманскага каналу паслязаўтра, к вечару.

Паляўнічыя паціснулі рукі і разыйшліся моўчкі. Хутка лес паглынуў іх фігуры.

Гадзін у пяць вечара сцежка вывела яго на імшыстую прагаліну. Пачакаўшы ў кустах некалькі хвілін, ён ціха рассунуў галіны і — застыў ад нечаканасці. Наперадзе, кроках у дваццаці, стаяў лось. Вось ён зрабіў некалькі асцярожных рухаў, ганарліва ўскінуў галаву, уважліва прыслухаўся і ўцягнуў паветра вільготнымі ноздрамі.

«Значыць, тут, паблізу, нікога няма, калі гэтая звяруга так спакойна вяла сябе, — зразумеў Караткоў.

Ісці было цяжка. Час-ад-часу пад нагамі правальваўся мяккі мох, хлюпала вада — кожны крок каштаваў не малых трудоў. Ужо змяркалася, калі Караткоў вышаў на маленькую паляну. Боты яго прамоклі, і ён толькі хацеў знайсці сухую купіну, каб змяніць парцянкі, як раптам на другім канцы палянкі ўбачыў чалавека.

Чалавек быў невысокі і каржакаваты. Ён асцярожна глядзеў па баках сваімі глыбока пасаджанымі вачыма і ўздрыгваў ад кожнага шораху. Яго ватоўка была разадрана ў некалькіх месцах на плячах, а з дзюр тырчала вата. Незнаёмы доўга стаяў у кустах, азіраючыся навокал, потым вышаў на сярэдзіну паляны. Караткоў заўважыў, што ён у адным боце. На другой назе былі наматаны анучы. Маёр прыпаў да зямлі і, калі незнаёмы адвярнуўся ад яго ў бок, нямоцна крыкнуў:

— Прыяцель, ці не маеш аганьку?..

Выстралаў Караткоў не пачуў. Спачатку ён убачыў жоўтую ўспышку агню, потым да яго данёсся сухі трэск пісталетнай чаргі і ў тую ж долю секунды кулі шчоўкнулі над галавой і збоку. Упалі два жоўтых лісты асіны, і паволі папаўзла ўніз галіна, зрэзаная куляй.

Маёр маланкай ускочыў на калені і адказаў незнаёмцу дуплетам з двуcтволкі. Вораг схаваўся ў гушчары.

— Стой, страляць буду! — рэзка загадаў Караткоў і кінуўся ў гушчар, услед за ім.

Нашто ён крыкнуў «Стой, страляць буду» ужо пасля выстралаў, Караткоў наўрад ці мог бы растлумачыць. Настолькі нечаканым было тое, што адбылося на паляне ў гэты момант. Але цяпер, прабіраючыся праз зараснікі, ён стараўся быць спакойным і толькі рэдка, калі бачыў наперадзе ўздрыгнуўшыя галіны нізкарослага арэшніку, страляў.

Бегшы наперадзе незнаёмы двойчы адказаў агнём, і кулі здзіралі скуру асін каля самай галавы Караткова. Трэба было быць асцярожным: у наступаючым змроку ўцякач можа прытаіцца ў кустах і ва ўпор расстраляць праследвальніка. Маёр выра-

(Працяг на стар. 6)



 

